**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 31 (904) 3 жніўня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





Аксана Лашкевіч з вёскі Хралы гадуе статак з 21 казы (з іх – 3 казлы) і займаецца вырабам сыроў з казінага малака. Смак сыроў высока ацанілі турысты, яе сыры закупляюць і кавярні. *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.**

**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная** – 636682 , кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.



ISSN 2077-8023



## Глыбоцкі раён

# На радасць дзецям і бацькам

■ Станіслаў Раманчук.

**Апошнім часам у нашай краіне актыўна вялося жыллёвае будаўніцтва, а таму маладыя сем'і болей сталі заводзіць дзяцей.**

У сувязі з гэтым паўсталі праблемы з аб'ектамі сацсферы, а вось у Глыбокім частку іх удалося вырашыць дзякуючы адкрыццю дзьмі новага дзіцячага сада на 200 месц. Першы камень на ягоным месцы заклалі ў пачатку восені 2014 года, калі глыбачане адзначалі 600-гадовы юбілей роднага горада. Усяго на важны аб'ект патрацілі амаль 6 млн. новых рублёў. Новы прыгожы і светлы яслі-дзіцячы сад № 1 атрымаў назву "Вішнёвая казка" і быў урачыста адкрыты днямі ў новым жылым мікрараёне райцэнтра "Паўночны", дзе пабудавана 12 шматпавярховых жылых дамоў. Такі ж настрой быў у прысутных, у тым ліку і ў ганаровага госця, старшыні ніжняй палаты беларускага парламента Уладзіміра Андрэйчанкі. Гэта ўстанова стварыла 60 новых рабочых месцаў, а галоўнае, што дазволіла забяспечыць месцамі не толькі дашкольнікаў мікрараёна. Сюды могуць перайсці дзеткі і з іншых шасці дзетсадоў у Глыбокім, калі іх групы перапоўнены. Усяго ж у "Вішнёвай казцы" запланавана адкрыць 11 груп для дзяцей розных узростаў і нават адзін пачатковы клас СШ № 2. Прысутныя на ўрачыстасцях парадаваліся, што паклапаціліся дарослыя пра маленькіх дзетак. Ва ўстанове ёсць і невялікі плавальны басейн з фізкультурна-аздараўленчым блокам, і пакоі эстэтычнага выхавання, медыцынскі, харчовы блок з патрэбным абсталяваннем. Тут таксама для малышоў абсталявалі гімнастычную залу, пакоі для заняткаў музыкай і авалодання камп'ютарнымі ведамі. Для юнага падрастаючага пакалення ў новы трохпавярховы яслі-сад набылі і прыгожую мэблю, сам будынак арыгінальны па архітэктуры.

## Пастаўскі раён

# Зноў лепшыя ў вобласці

■ Кастусь Александровіч

**З-за адсутнасці ў многіх вяскоўцаў жадання працаваць з поўнай аддачай на зямлі з'явіліся цяпер у глыбінцы гаспадаркі-банкруты.**

Толькі ў Пастаўскім раёне з-за непад'ёмных даўгоў чатыры дабітыя сельгаспрадпрыемствы неўзабаве будуць ліквідаваны. Праўда, дзіўна, што па суседстве з імі зусім інакш жывуць такія ж гаспадаркі, а прыгарадная ААТ "Хацілы-агра" стала адным з лепшых у Віцебскай вобласці. Па ўраджайнасці збожжа гэтаму калектыву няма роўных у Прыдзвінні, але і ў жывёлагадоўлі ў іх справы ідуць паспяхова. Сёлета тут у няпростых умовах надвор'я правялі першы ўкос траў на плошчы 1700 гектараў. Мясцовы механізатар Андрэй Волк стаў першым на Віцебшчыне, хто зарулоніў 1500 тон духмяных траў у сучасную стрэйч-плёнку, за што атрымаў дыплом і грашовую прэмію ад галіновага абкама прафсаюза работнікаў АПК. Увогуле за паспяховае правядзенне зімоўкі можна не трывожыцца, паколькі заклалі неабходны запас зялёнай масы: амаль 15 тысяч тон сенажу, з якіх каля 3 тысяч у рулонах з плёнкай, якую добра паядае жывёла. Па выніках працы ў першым паўгоддзі мясцовая рабатызаваная ферма "Волахі" зноў заваявала першае месца ў вобласці ў саперніцтве з іншымі сучаснымі фермамі. У пачатку лета, у чэрвені на гэтым комплексе атрымалі ад кожнай каровы па 711 літраў малака за месяц. Уся прадукцыя была высокай таварнасці і рэалізавана выключна найвышэйшым класам "экстра", пра што на сустрэчы з работнікамі фермы з гонарам паведаміў старшыня галіновага абкама прафсаюза Віктар Гутараў, які на працягу амаль 9 гадоў узначальваў перад гэтым Пастаўскі раён. Сучасны малочны комплекс з робатамі працуе ў гаспадарцы паспяхова ўжо восьмы год, сябе апраўдвае і таму задумалі пабудаваць яшчэ адзін. У цэлым па раёне ў дзясятцы лепшых ферм па надоях палова менавіта з "Хацілаў-агра".

## Полацкі раён

# На дарогах – не спакойна

■ Чэслаў Якубовіч.

**Калі практычна паўсюдна ў Беларусі крымінальных злачынстваў стала меней, то абстаноўка з аварыйнасцю на дарогах з-за інтэнсіўнага руху параненейшаму напружаная.**

Вось і ў Полацкім раёне на працягу некалькіх тыдняў у сярэдзіне лета было зафіксавана шэраг ДТЗ з цяжкімі наступствамі для людзей. Каля апоўначы мала-ды 23-гадовы гараджанін ехаў у накірунку вёскі Калектыўная і збіў на дарозе пешахода. Ад атрыманых траўм памёр 33-гадовы жыхар суседняга Навапалацка, які, праўда, не меў на вопратцы святлоадбіўных элементаў (флікера). Перад гэтым яшчэ адзін 43-гадовы жыхар Полацкага раёна ехаў у камандзіроўку ў Оршу на грузавым аўтамабілі "Volvo" і збіў насмерць таксама пешахода, інваліда 2-й групы. Трывожна, што ў дарожна-транспартныя здарэнні ўсё часцей сталі трапляць маладыя вадзіцелі з малым вопытам ваджэння. У ліку такіх апынуўся 18-гадовы палачанін, які перад паездкай з сябрамі ў Віцебск толькі 9 дзён назад атрымаў вадзіцельскае пасведчанне. Ужо ў абласным цэнтры на аб'язной дарозе вакол горада ён не справіўся з кіраваннем легкавога аўтамабіля "Ford Skorpio" і ўрэзаўся ў фуру з паўпрыцэпам. На шчасце, ніхто з трох ехаўшых у машыне не загінуў. Аднак прыйшлося змясціць у бальніцу з атрыманымі траўмамі не толькі кіроўцу-юнака, але і ягоных землякоў ва ўзросце 17 і 19 гадоў. На лячэнне ў гарбальніцу сёлета летам даставілі яшчэ двух падлеткаў з Полаччыны, а 14-гадовы палачанін загінуў вечарам у ДТЗ на 45-км аўтадарогі Р45 у напрамку Глыбокага. У той дзёнь ён так і не даехаў на возера адпачыць, калі іншамарка зляцела з дарогі ў кювет і перакулілася.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 03.08.17 | | | | Пятніца 04.08.17 | | | | Субота 05.08.17 | | | | Нядзеля 06.08.17 | | | | Пн.07.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +19 | +18 | +21 | +18 | +16 | +20 | +24 | +20 | +18 | +17 | +22 | +18 | +13 | +17 | +22 | +16 | +14 | +16 | +21 |
| Ціск | 747 | 748 | 747 | 746 | 745 | 743 | 742 | 742 | 740 | 743 | 744 | 745 | 747 | 748 | 749 | 749 | 750 | 751 | 750 |
| Вецер м/сек | 3 Пн-З | 3 Пн-З | 3 З | 3 Пд-З | 4 Пд | 4 Пд | 6 З | 3 З | 4 Пд | 4 З | 7 З | 4 З | 3 Пд | 4 Пд-З | 6 З | 2 Пд-З | 2 Пд | 2 З | 6 З |
| Вільготнасць | 99 | 83 | 64 | 80 | 88 | 75 | 76 | 83 | 96 | 93 | 59 | 74 | 91 | 78 | 53 | 87 | 92 | 86 | 50 |

# Аб самым надзённым

## НА БОЛЬШАСЦЬ СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЕЙ ПРАХАДНЫЯ БАЛЫ Ў ВНУ БЕЛАРУСІ СЁЛЕТА ПРЫКМЕТНА ВЫРАСЛІ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Паколькі жадаючых вучыцца бясплатна сёлета за кошт дзяржбюджэту было даволі шмат, то і канкурэнцыя атрымалася вострай. Прахадныя балы для залічэння на бюджэтную дзённую форму навучання ў большасці айчынных ВНУ краіны практычна паўсюдна выраслі.**

Сярэдзіна лета сёлета, як і раней, была вельмі хвалюючай для сотні тысяч маладых беларусаў, іх бацькоў і родных. Толькі на цэнтралізаванае тэсціраванне ў гэтым годзе зарэгістраваліся ў Беларусі амаль 93 тысячы юнакоў і дзяўчат, трэць з іх здавалі выпрабаванні ведаў адразу па чатырох прадметах. А ўжо з панядзелка 10 ліпеня суайчыннікі сталі атрымоўваць сертыфікаты аб здачы ЦТ па выбраных прадметах. Хваляванні нашых маладых грамадзян толькі ўзмацніліся, бо было аб'яўлена аб скарачэнні на 700 чалавек колькасці месц на бюджэтную форму навучання.

Праўда, па розных прычынах падчас уступнай кампаніі амаль 16 тысяч абітурыентаў не прыйшлі ў аўдыторыі для напісання бланкаў ЦТ, а яшчэ 33 выгналі з аўдыторый за розныя парушэнні правілаў здачы гэтых экзаменаў. Як вядома, даволі шмат, адразу 314 нядаўніх школьнікаў хоць бы па адным выбраным прадмеце атрымалі адзнакі па 100 балаў. Каб такога дасягнуць, яны месяцамі, як рабы на галерах, з дня ў дзень сядзелі з падручнікамі. З яшчэ маладых гадоў нашы землякі ўжо ведаюць, што толькі дзякуючы цяжкай працы напярэдадні яны могуць пазбавіцца невясёлай перспектывы вучыцца платна.

Паколькі жадаючых вучыцца бясплатна сёлета за кошт дзяржбюджэту было даволі шмат, то і канкурэнцыя атрымалася вострай. Прахадныя балы для залічэння на бюджэтную дзённую форму навучання ў большасці айчынных ВНУ краіны практычна паўсюдна выраслі. У флагмане адукацыі, сталічным Белдзяржуніверсітэце зноў аказаўся самы высокі конкурс, а на адным з яго факультэтаў па спецыяльнасці "дызайн" ён аказаўся проста фантастычным 27,5 чалавека на адно месца. Таксама вельмі значнымі сталі балы для залічэння на бюджэт у дзяржуніверсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі (у раёне 380 балаў).

Як і ў папярэднія гады, адрозніваліся сітуацыя з паступленнем у прэстыжныя навучальныя ўстановы і з ВНУ глыбінкі, дзе стаць студэнтамі ў правінцыі ўсё ж прасцей. У параўнанні з мінулым годам, да прыкладу ў той жа флагман, мінскі БДУ сёлета паступіць аказалася значна цяжэй, бо прахадныя балы для залічэння на асноўныя спецыяльнасці павялічыліся на 30-50 пазіцый. Не хваляваліся там толькі вундэркінды, паколькі ў гэты дзяржуніверсітэт залічылі аўтаматычна без экзаменаў 69 пераможцаў рэспубліканскіх, міжнародных алімпіяд і лаўрэатаў спецыяльнай прэзідэнцкай прэміі. Практычна падвоілася там лічба абітурыентаў, якія на ЦТ набралі звыш 300 балаў, а значыць мелі вельмі трывалыя веды па школьных прадметах.

І гэта добра, што сталі цаніць маладыя сваю падрыхтоўку, бо без гэтага не стаць добрым спецыялістам у сферы асабліва найноўшых інфармацыйных тэхналогій. Як вядома, заробкі ў IT-індустрыі цяпер найвышэйшыя ў нашай краіне, як у цэлым у свеце. Таму ў тым жа БДУІР першакурснікамі залічвалі тых, хто набраў мінімум 258 прахадных балаў. У Мінску на самыя непапулярныя інжынерныя спецыяльнасці, звязаныя потым са службай у арміі, залічвалі тых, хто набраў пад 100 балаў і болей. Самыя нізкія прахадныя балы для залічэння ў айчынныя ВНУ выраслі паўсюдна, што звязваюць спецыялісты з больш якаснай прафарыентацыйнай работай іх выкладчыкаў.

У гэтым навучальным годзе скарысталіся маладыя суайчыннікі і магчымасцю паступіць без экзаменаў на найбольш запатрабаваныя для народнай гаспадаркі спецыяльнасці. Аднак для гэтага падчас вучобы ў школе патрабавалася закончыць яе з залатым альбо сярэбраным медалём, а ССНУ – з чырвоным дыпломам. Радуе, што сёлета магчымасцю стаць студэнтам без экзаменаў, актыўна карысталіся выпускнікі педагагічных класаў. Аднак па ўсіх школьных прадметах у іх павінны былі ў атэстатах быць адзнакі не ніжэй 8 балаў, а пасля заканчэння такіх ВНУ па размеркаванні іх выпускнікі павінны адпрацаваць мінімум 5 гадоў. У выніку ў той жа БДУ залічылі 67 такіх абітурыентаў.

Рост прахадных балаў у гэтым годзе ў цэлым па Беларусі выкліканы тым, што ўпершыню юнакі і дзяўчаты маглі здаваць на ЦТ не тры, а чатыры прадметы. Многія скарысталіся такой магчымасцю. Не выключана, што прасцей стала здаваць такія выпрабаванні пасля рэкамендацый кіраўніка краіны спрасціць змест тэкстаў для ЦТ. У ВНУ маладыя беларусы імкнуліся паступіць найперш менавіта з-за скарачэння да 27,2 тысяч студэнцкіх месц на бюджэт. Усё ж многім сем'ям вучыць платна сваіх дзяцей вельмі няпроста.

Наша краіна ўжо 2 гады, як яна далучылася да Балонскага працэсу, а ў адпаведнасці з ім, з цягам часу колькасць тых маладых спецыялістаў, хто з дыпломам паедзе па размеркаванні працаваць, будзе скарачацца. Тыя, хто добра вучыўся ў школе, сёння могуць толькі радавацца. Збылася іх галоўная мара дзяцінства, а наперадзе чакаюць шчаслівых першакурснікаў ВНУ 4-5 вясёлых студэнцкіх гадоў, якія яны будуць памятаць усё сваё жыццё.

## Дзень за днём

**МВФ спыніў абмеркаванне новага крэдыту для Беларусі з-за адсутнасці падтрымкі рэформ. А. Лукашэнка дазволіў бізнесмену В. Пракапеню купіць за 50 мільёнаў долараў "Парытэтбанк". У Беларусь пачалі прыбываць расійскія ваенныя для ўдзелу ў вучэннях "Захад-2017". У пачатку лета, у чэрвені інфляцыя склала 0,7 %. Рэальныя даходы беларусаў скараціліся на 1,2 %. На атамнай электрастанцыі ў Астраўцы пачалі дастаўляць дэталі для другога энергаблоку. БелАЭС выведуць на поўную магутнасць летам 2020 года. Участкі рэк, ручаёў і каналаў у арэнду перадаваццa не будуць. Колькасць бюджэтных месц у ВНУ Беларусі скарацілі на 700 студэнтаў, а прахадныя балы на шматлікія спецыяльнасці істотна павялічыліся.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Глава ЕС Жан-Клод Юнкер заклікаў тэрмінова ўвесці меры ў адказ на новыя антырасійскія санкцыі ЗША, якія закранулі інтарэсы энергетычных кампаній Еўропы.

**ЗША**. У Пентагоне, як пацвердзіў генерал Д. Данфард, не выключаюць магчымасць ваеннага канфлікту з КНДР з-за растучай пагрозы ядзернай праграмы карэйцаў.

**Венесуэла.** Прэзідэнт-папуліст М. Мадура прыгразіў арыштаваць прызначаных парламентам 13 новых членаў Вярхоўнага суда, крызіс у краіне ўзмацняецца.

**Румынія.** Краіна за 4 мільярды долараў ЗША купіла ў ЗША навейшыя зенітныя ракетныя комплексы Patriot, такая зброя з'явіцца і ў польскай арміі, амерыканцы размясцілі ракеты ў Літве.

**Катар.** Чатыры арабскія краіны, якія пра'явілі Катару ўльтыматум, прадоўжылі свае санкцыі, хоць Доха падпісала антытэрарыстычнае пагадненне з ЗША.

**Германія.** Некалькі дзесяцігоддзяў 5 буйных аўтаканцэрнаў Volkswagen, Audi, Porsche, BMW і Daimler праводзілі тайныя нарады і парушылі прынцыпы чэснай канкурэнцыі.

**ЗША.** Улады краіны забаранілі дзяржустановам набываць праграмнае забеспячэнне расійскай групы "Лабараторыі Касперскага" з-за яе цесных сувязей з ФСБ Расіі.

**Польшча.** У краіне прайшлі масавыя акцыі пратэсту супраць прыняцця закона аб Вярхоўным судзе, які будзе падпарадкоўвацца Міністэрству юстыцыі.

**Сірыя.** У выніку нечаканага мінамётнага абстрэлу ў правінцыі Хама загінуў 32-гі па ліку расійскі ваенны дарадца капітан М. Афанасаў, яго гібель пацвердзіла Мінабароны РФ.

**Расія.** З-за эканамічных цяжкасцей тэрміны заканчэння пабудовы па дзяржзаказу галаўнога атамнага ледакола "Арктыка" коштам 37 млрд. перанеслі з 2017 на 2019 год.

**Бельгія.** Еўрапейскі суд па правах чалавека ў Страсбургу пацвердзіў законнасць уведзенай у краіне забароны нашэння мусульманкамі ў грамадскіх месцах паранджы і нікаба.

**ЗША.** Беларускі прафесар, супрацоўнік цэнтра Вільсана А. Манаеў заявіў, што ўжо можна гаварыць аб застоі ў Беларусі, як палітычнай аналогіі падзей пачатку 80-х гадоў у СССР.

**Расія.** Краіна спрасціла для ўкраінцаў працэдуру атрымання з 1 верасня грамадзянства РФ па аблегчанай схеме, яны цяпер могуць мець двайное грамадзянства.

**Антарктыда.** Вучоныя пацвердзілі, што на заходзе кантынента адкалоўся гіганцкі ляднік, айсберг плошчай 6 тысяч кв. км, як Уэльс, яго могуць ветры аднесці ў Атлантычны акіян.

**Швейцарыя.** На сесіі МАК у Лазанне вырашылі, што летнія Алімпійскія гульні пройдуць у 2024 годзе ў Парыжы, у 2028 годзе – Лос-Анджэлесе, у 2020 годзе іх прыме горад Токіо.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На нарадзе ў главы краіны пасол Беларусі ў Кітаі К. Руды абурыўся, што ў аэрапорце "Мінск" у прэзідэнта буйной карпарацыі Кітая 40 мінут "патрашылі рэчы".

**Астравец.** Прэс-служба ўзводзімай Беларускай АЭС абвергла чуткі аб няшчасных выпадках з работнікамі ў 2017 годзе, ніхто ў калектыве станцыі не загінуў.

**Брэст.** Следчыя выявілі больш 20 фіктыўных фірм, якія рэгістравалі пераважна рускія і потым займаліся рээкспартам польскіх яблыкаў у Расію.

**Мінск.** Пасля візіту ў Кіеў віцэ-прэм'ер урада Беларусі У. Сямашка запэўніў, што за 2,5 гады можна будзе давесці тавараабарот з Украінай да 8 мільярдаў долараў.

**Рэчыца.** Кампанія "Беларуснафта" выйграла тэндар на бурэнне 4-х свідравін нафты на радовішчы, якім валодае самы багаты бізнесмен Украіны Рынат Ахметаў.

**Гомель.** Юрыст і праваабаронца Л. Судаленка заявіў, што ўсе мы разам дабіліся адмены дэкрэта "аб дармаедах", бо ён пакуль не прымяняецца, хоць і не адменены.

**Маладзечна.** На судзе за гібель "на бульбе" школьніцы двух настаўніц пакаралі 2 гадамі абмежавання волі без накіравання "на хімію" і штрафам па 2300 рублёў кожную.

**Брэст.** Вечарам у абласным цэнтры супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі затрымалі "Опель" 31-гадовага кіроўцы, у яго быў "рэкорд" па выпіўцы за рулём – 4,36 праміле алкаголю ў крыві.

**Мінск.** Палітолаг А. Класкоўскі заявіў, што на Кангрэсе рускай прэсы А. Лукашэнка смела меў на ўвазе крамлёўскую прапаганду, калі гаварыў аб асноўных нагодах гібрыдных войн.

**Баранавічы.** З пнеўматычнага пісталета 17-гадовы навучэнец аграрнага ліцэя абстраляў вокны школы, было пашкоджана 11 шклопакетаў, хулігана арыштавалі, яго чакае суд.

**Дзятлава.** Следчыя пачалі праверку, як 6-гадовы хлопчык выпаў з акна дома на 3-м паверсе, калі моцна напалохаўся, гуляючы вечарам адзін у камп'ютарную стралялку.

**Маладзечна.** У дачным доме ля горада ноччу п'яны 27-гадовы хлопец забіў нажом 66-гадовую жанчыну з-за непрыязных адносін, мярзотніку пагражае расстрэл.

**Пінск.** Падчас моцнай навальніцы з парывамі ветру да 18 метраў у секунду ў раёне сарвала дахі 13 ферм, 3 жылых дамоў, быў пашкоджаны 21 сельскагаспадарчы аб'ект.

**Кобрын.** У бальніцы памерла 75-гадовая жанчына, якая абліла сябе вечарам бензінам і падпаліла на беразе Мухаўца, яна была на ўліку ў псіхіятра, хацела звесці рахункі з жыццём.

**Брэст.** Паўабаронца ФК "Дынама-Брэст" П. Сядзько правёў самы кур'ёзны гол сезона з падачы вуглавога ўдару і вывеў свой клуб у 1/4 розыгрышу Кубка Беларусі па футболе.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск**. Напярэдадні жніва толькі ў двух раёнах вобласці – Дубровенскім і Глыбоцкім былі гатовы да працы ў полі ўсе збожжаўборачныя камбайны, у рамонце былі 556.

**Полацк.** Звыш 100 чалавек пераважна перадпенсійнага ўзросту могуць звольніць, калі за год не ўдасца прадаць мясцовы вінаробчы заводбанкрут з амаль 90-гадовай гісторыяй.

**Орша.** На прэстыжным фестывалі моды ў РФ "Плёс на Волзе. Льняная палітра" калекцыя адзення льнокамбіната " Дотык Візантыі" дызайнера А. Барушка атрымала спецыяльны прыз.

**Мазолава.** У сельгас–філіяле УП "Віцебскаблгаз" урачыста адкрылі лепшы ў вобласці сучасны цэнтр тэхнічнай дыягностыкі, абслугоўвання, рамонта і захоўвання тэхнікі.

**Лётцы.** У дзіцячым лагеры "Магістраль" Беларускай чыгункі загарэўся пакой на другім паверсе 3-павярховага жылога корпуса, агонь пашкодзіў столь і сцены.

**Полацк.** У ліку 22 прадпрыемстваў Дзяржкаммаёмасць Беларусі выставіў для абмену на чэкі "Маёмасць" і акцыі ААТ "Полацкшкловалакно" ў філіялах Беларусбанка.

**Ушачы.** У аграгарадку Ілюшына выратавальнікі райаддзела МНС з дапамогай спецтэхнікі дасталі з глыбокай ямы каня, які туды праваліўся, калі пасвіўся на лузе.

**Глыбокае.** За арганізацыю незаконнай міграцыі суд пакараў грамадзяніна Англіі іракскага паходжання і двух беларусаў пазбаўленнем волі ад 2-х да 3 гадоў і 1 месяц.

**Віцебск.** Суд пакараў мужчыну 4 гадамі турмы за ўчынены летась напрыканцы восені пагром у магазіне ў нецвярозым стане, дзе ён яшчэ дэманстраваў свае палавыя органы.

**Браслаў.** Падчас музычнага фестывалю Viva Braslav упершыню ў Беларусі прайшоў чэмпіянат па пераносцы жонак у экстрэмальных умовах з удзелам 16 сямейных пар.

**Мёры.** На самым вялікім у Еўропе верхавым балоце, заказніку "Ельня" вырашылі стварыць экалагічную сцяжынку для перамяшчэння па насцілах інвалідаў-калясачнікаў.

**Паставы.** Ля прахадной ААТ "Паставымэбля" з'явілася прыгожая падстаўка для кветкавых кашпо ў выглядзе рэтравеласіпеда, ля аўтапарка № 17 - грузавік ГАЗ-51.

**Докшыцы.** У старажытнай вёсцы Паўднёвае Гняздзілава ў аднойлавай мясцовай царкве прайшоў хрысціянскі фэст у гонар святых апосталаў Пятра і Паўла.

**Расоны.** У Клясціцкай СШ адкрылі мемарыяльную дошку ў гонар рускага генерала Пятра Вітгенштэйна, які тут атрымаў перамогу над французамі падчас вайны 1812 года.

**Наваполацк.** Жыхар горада Міхаіл Варанько перадаў у Полацкі краязнаўчы музей унікальны экспанат сякеру ўзростам звыш 4 тысяч гадоў эпохі бронзавага веку.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## У Беларусі падоўжаны тэрміны падлучэння касавага абсталявання да сістэмы дыстанцыйнага кантролю выручкі



■ Кар. БЕЛТА

**У Беларусі падоўжаны тэрміны падлучэння касавага абсталявання да сістэмы дыстанцыйнага кантролю выручкі.**

Гэта прадугледжана сумеснай пастановай Савета Міністраў і Нацыянальнага банка №571 / 9 ад 31 ліпеня 2017 года, якое афіцыйна апублікавана сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА. Для юрыдычных асоб і ІП гэты тэрмін перанесены з 1 студзеня на 1 ліпеня 2018 года. Да гэтага часу яны пры продажы тавараў, выкананні работ і аказанні паслуг павінны будуць пачаць прымаць наяўныя з дапамогай убудаванага касавага абсталявання з усталяваным сродкам кантролю падатковых органаў. Таксама на паўгода, да 1 ліпеня 2018 га, перанесены тэрмін падлучэння кас і для юрыдычных асоб, якія афармляюць праезд і аказваюць паслугі на чыгуначным транспарце агульнага карыстання. Згодна з пастановай, прымаць наяўныя, банкаўскія аплатныя карткі на касавым абсталяванні з усталяваным сродкам кантролю падатковых органаў юрыдычныя асобы ў гарадах абласнога падпарадкавання і Мінску павінны будуць з 1 лютага 2018 года (першапачаткова 1 жніўня 2017-га), у гарадах раённага падпарадкавання - з 1 чэрвеня 2018 года (1 снежня 2017-га), а з 1 ліпеня - па ўсёй Беларусі. Перанесены тэрміны і для ІП. Тым, што працуюць у гарадах абласнога падпарадкавання і Мінску, - з 1 чэрвеня на 1 снежня 2018 года. Прадпрымальнікі ў гарадах раённага падпарадкавання павінны будуць падключыць такое абсталяванне не з 1 ліпеня 2018 га, а з 1 студзеня 2019-га. З 1 лютага такія касы павінны зарабіць у ІП паўсюдна. Пастанова ўступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

## «Белтэлекам» не плануе павышаць плату за інтэрнэт у 2017 годзе

«Белтэлекам» не плануе павышаць плату за інтэрнэт для сваіх кліентаў і аператараў інтэрнэт-паслугпрыўмове,што макраэканамічная сітуацыя застанецца стабільнай, паведаміў Sputnik намеснік генеральнага дырэктара па камерцыйных пытаннях арганізацыі Сяргей Турomша.

«Калі заўтра зменіцца курс даляра, то, вядома, інтэрнэт падаражэе, але калі захаваецца такая макраэканоміка, як цяпер, у гэтым годзе не будзе павышэння», - сказаў ён.

Спецыяліст падкрэсліў, што па ўласнай ініцыятыве арганізацыя паднясць плату не мае права. Любое рашэнне неабходна ўзгадняць са сваімі рэгулятарамі - міністэрствам сувязі і антыманапольнага рэгулявання і гандлю.

У сярэднім цэны «Белтэлекам» падвышае раз у год і толькі ў адпаведнасці з індэксам спажывецкіх цэн, гэта значыць пры наяўнасці інфляцыі, дадаў Сяргей Туромша.

«Белтэлекам» - нацыянальная тэлекамунікацыйная кампанія. Трафік у кампаніі закупляюць усе аператары інтэрнэт-паслуг, па-за залежнасці ад формаў уласнасці.

# У Беларусі з 1 жніўня вырастуць мінімальныя працоўныя і сацыяльныя пенсіі



**Беларусі з 1 жніўня вырастуць мінімальныя працоўныя і сацыяльныя пенсіі, якія прывязаныя да памеру БПМ. Нагадаем, з наступнага месяца гэты паказчык вырасце да 197,57 рубля. Акрамя таго, з 1 жніўня павялічацца надбаўкі, павышэнні да пенсій і даплаты беларусам 75 гадоў і старэй, якія атрымліваюць пенсіі ў органах па працы, занятасці і сацабароне, а таксама дапамогі па доглядзе за інвалідам І групы ці за асобай, якая дасягнула 80-гадовага ўзросту. Мінімальныя працоўныя і сацыяльныя пенсіі пераглядаюць раз у квартал, яны змяняюцца разам з бюджэтам пражытачнага мінімуму.**

| Від пенсіі ці надбаўкі | з 1 жніўня | да 1 жніўня |
|---|---|---|
| мінімальная пенсія па ўзросце з улікам даплаты ў памеры 20% ад сярэдняй зарплаты | 174,61 | 171,18 |
| сацыяльная пенсія інвалідам 1-й групы, у тым ліку інвалідам з дзяцінства | 217,33 | 202,20 |
| інвалідам з дзяцінства 2-й групы | 187,69 | 174,63 |
| інвалідам 2-й групы (акрамя інвалідаў з дзяцінства), дзецям у выпадку страты карміцеля | 167,94 | 156,25 |
| інвалідам 3-й групы | 148,18 | 137,87 |
| асобам, якія дасягнулі ўзросту: мужчыны — 60 гадоў, жанчыны — 55 | 98,79 | 91,91 |
| дзецям-інвалідам да 18 гадоў пры ступені страты здароўя: | | |
| першай | 158,06 | 147,06 |
| другой | 167,94 | 156,25 |
| трэцяй | 187,69 | 174,63 |
| чацвёртай | 217,33 | 202,20 |
| даплаты да пенсій непрацуючым пенсіянерам, якія дасягнулі: | | |
| 75 гадоў | 37,04 | 34,47 |
| 80 гадоў | 49,39 | 45,96 |

Звычайныя працоўныя пенсіі па ўзросце пакуль застаюцца ранейшымі: гэтыя выплаты змяняюцца толькі раз у год на падставе прэзідэнцкага ўказу.

## 39-гадовая мінчанка, якая адпачывала на Браслаўскіх азёрах памерла з-за ўдару маланкі

**39-гадовая жанчына, якая адпачывала на Браслаўскіх азёрах памерла пасля ўдару маланкі, паведаміла афіцыйны прадстаўнік Віцебскага абласнога МНС Марына Фандо.**

Днём 31 ліпеня кампанія людзей адпачывала на возеры Струста. Жанчына знаходзілася на турыстычнай стаянцы Нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры», калі пачалася навальніца. Яна загінула з-за ўдару маланкі. Урачы, якія прыбылі, ужо дапамагчы не маглі, канстатавалі смерць. У МНС распавялі, што ад удару пацярпела яшчэ адна мінчанка, яна атрымала лёгкія траўмы і ад шпіталізацыі адмовілася.

*news.tut.by*

## Падводнае паляванне на Дрысвятцы скончылася трагедыяй

22 ліпеня двое непрацуючых мінчан 1975 і 1976 гадоў нараджэння займаліся падводным паляваннем у штучным вадасховішчы гідраэлектрастанцыі «Дружба народаў». І гэта пры тым, што ў цёмны час сутак такі від здабычы рыбы катэгарычна забаронены, а на ўзгаданым вадаёме ён не дазволены наогул. У дадатак да гэтага мужчыны парушылі пункт дзеючых правілаў, якім рыбная лоўля забаронена бліжэй за 50 метраў ад гідратэхнічных збудаванняў, і рашэнне райвыканкама, якім забаронена купанне на той жа адлегласці ад такіх аб'ектаў.

Зразумела, што беспрэцэдэнтнае грэбаванне правіламі і патрабаваннямі не магло закончыцца дабром. Нягледзячы на тое, што турбіны электрастанцыі не працуюць, цячэннем старэйшага з рыбаловаў зацягнула ў механізмы, дзе ён атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. Напарніку ўдалося дастаць пацярпелага з вады, аднак ад атрыманых траўм той памёр.

*Віктар Мархель.*

# 1155 год беларускай дзяржаўнасці — гадавіна, якую адзначае адзін горад

**862 год – першая згадка пра Полацк, найстарэйшы горад Беларусі. Але гісторыкі лічаць, што сёлета 1155-ю гадавіну мае правa адзначаць не толькі Полацк. Гэта мусіць быць нацыянальнае свята – гадавіна беларускай дзяржаўнасці.**

Гісторык Сяргей Тарасаў пагаджаецца з думкай, што сёлета можна адзначаць гадавіну беларускай дзяржаўнасці.

«Безумоўна, гэта мусіць быць агульнанацыянальнае свята, — сказаў Тарасаў (Радыё Свабода). — Найбольш яскрава пра гэта напісана ў Дэкларацыі аб незалежнасці 1991 года. Там чорным па белым напісана, што нашая дзяржаўнасць пачынаецца з Полацкага і Тураўскага княстваў, Вялікага Княства Літоўскага і так далей».

Паводле Тарасава, Полацкае княства мела ўсе прыкметы дзяржаўнасці: вызначаную тэрыторыю, землі былі звязаны эканамічнымі сувязямі, яны мелі адзіную культуру, тут была ўласная полацкая княская дынастыя — Рагвалодавічы, а потым Усяславічы.



Полацкае княства мела адметную культуру. З аднаго боку, яна была ў агульнаеўрапейскім рэчышчы, блізкая да іншых земляў усходняй Еўропы. У той жа час яна была адрозьнай ад іх. Надзвычай выразна гэта праявілася ў мураваным дойлідстве: Сафійскі сабор, храмы Бельчыцкага манастыра, Спасаўскі манастыр.

«Абсалютна слушна мы можам адлічваць дзяржаўнасць менавіта ад Полацкай зямлі», – кажа Тарасаў.

«Дзяржаўнасць іншых княстваў была ў зародкавым стане, – кажа Тарасаў. – А Полацкае афармілася як самастойная дзяржава».

*Паводле Радыё Свабода.*

# Топ-10 самых бедных і багатых раёнаў Беларусі



**Сярэдні заробак беларусаў у чэрвені вырас амаль да 820 рублёў (сума да выплаты падаткаў). Да прыкладу, урачы атрымліваюць ужо больш за 1000 рублёў, а настаўнікі — практычна 660 рублёў. FINANCE.TUT.BY паглядзеў, як сярэднія заробкі беларусаў адрозніваюцца па раёнах.**

Жыхары толькі 5 раёнаў атрымліваюць заробак больш за сярэдні па краіне — Салігорскага, Мінскага, Дзяржынскага, Рэчыцкага, Смалявіцкага. Ва ўсіх астатніх раёнах заробкі ніжэй сярэдніх па краіне. Пры гэтым жыхары Салігорскага раёна атрымліваюць больш за ўсіх у краіне — 1165,7 рубля. Гэта на 22,6 рубля больш, чым у Мінску.

## Шаркоўшчынскі раён зноў стаўся заробкавым аўтсайдарам

Менш за ўсё зарабляюць па-ранейшаму ў Шаркаўшчынскім раёне — 494,8 рубля. Гэтая сума амаль у 2,4 раза менш, чым у Салігорскім. Пры гэтым калі адняць з зарплаты жыхароў Шаркоўшчынскага раёна падаткі (13% — падаходны падатак, 1% — унёскі работніка ў ФСАН), то на рукі выйдзе і зусім 426 рублёў.

**Топ-10 раёнаў с высокімі заробкамі ў чэрвені**

| раён | сярэдні заробак у рублях | да аналагічнага перыяду 2016 года, у % |
|---|---|---|
| Салігорскі | 1165,7 | +2,5 |
| Мінскі | 987,3 | +1 |
| Дзяржынскі | 899,9 | +2,6 |
| Рэчыцкі | 848,4 | +2,3 |
| Смалявіцкі | 845,5 | +5,9 |
| Астравецкі | 799,1 | +10,7 |
| Лагойскі | 776,8 | +7,2 |
| Мазырскі | 773,6 | +3,8 |
| Жлобінскі | 771,4 | +12,8 |
| Нясвіжскі | 767,1 | +5,4 |

**Топ-10 раёнаў з самымі нізкімі заробкамі ў чэрвені**

| раён | сярэдні заробак у рублях | да аналагічнага перыяду 2016 года, у % |
|---|---|---|
| Шаркоўшчынскі | 494,8 | –1,4 |
| Кармянскі | 524,6 | +4,2 |
| Мёрскі | 533,6 | +1,8 |
| Бешанковіцкі | 536,4 | +0,9 |
| Лоеўскі | 536,6 | +9,9 |
| Мсціслаўскі | 544 | +1,5 |
| Шумілінскі | 546,5 | +4,1 |
| Ушацкі | 548,6 | +2,6 |
| Браслаўскі | 549,9 | +3,6 |
| Сенненскі | 551,8 | +2,3 |

Пры гэтым у 43 раёнах з 118 сярэдні заробак у чэрвені не перавышаў 600 рублёў.

***Заўвага:** у табліцы падкрэсленыя раёны Віцебскай вобласці.*

Акцыя газеты сярод сваіх чытачоў

**Фатаграфія з гісторыяй!**

**Напішы сваю гісторыю з фатаграфіяй!**

# Жыццё пражыта не дарэмна, і яно, на шчасце, прадаўжаецца

**Да 80-годдзя з дня нараджэння П.С. Сусалкі.**



**Кліменцій Кожан,** выпускнік Глыбоцкага педвучылішча 1955 года, Германавічы, Шаркоўшчынскі раён.

Спаўняецца 80 гадоў з дня нараджэння вядомага ў Віцебскай вобласці камсамольскага і партыйнага работніка, былога намесніка начальніка Упраўлення ўнутраных спраў Віцебскай вобласці, палкоўніка ўнутранай службы Пятра Сямёнавіча Сусалкі. Нарадзіўся ён 8 жніўня 1937 года ў вёсцы Лапліна Докшыцкага раёна ў сялянскай сям'і.

У 1948 годзе закончыў Лаплінскую пачатковую школу, а 1951 годзе – 7 класаў у Крулеўшчынскай сярэдняй школе. У гэтым жа годзе паступіў у **Глыбоцкае педагагічнае вучылішча,** якое паспяхова закончыў у 1955 годзе па спецыяльнасці настаўнік пачатковых класаў. Тут актыўна займаўся спортам, меў спартыўныя разрады па стральбе, лёгкай атлетыцы і лыжах. Ва ўсе гады вучобы ў педвучылішчы выбіраўся сакратаром камсамольскай арганізацыі класа. Накіраваны на працу ў Свірскі раён Маладзечанскай вобласці. Праз год быў прызваны на тэрміновую службу на Чырвонасцяжны Балтыйскі флот, дзе прайшоў шлях ад матроса да галоўнага старшыні. Тут уступіў у КПСС. Без адрыву ад службы закончыў дывізіённую партыйную школу.



Пасля дэмабілізацыі Маладзечанскі абкам камсамола запрасіў П.С. Сусалку на камсамольскую працу. Спачатку працаваў інструктарам Мёрскага райкама камсамола. 3 лютага 1960 года працаваў другім сакратаром **Глыбоцкага** райкама камсамола, на гэтай пасадзе працаваў да мая 1966 года. Быў выбраны дэлегатам XV з'езда ВЛКСМ. Узнагароджаны медалём "За працоўную доблесць". У 1966 годзе завочна скончыў гістарычны факультэт Мінскага пэдінстытута.

У Глыбокім П.С. Сусалка стварыў сям'ю. Тут нарадзілася дачка Ірына. Засталіся добрыя сябры па сумеснай працы з моладдзю.

У 1966-1968 гадах працаваў сакратаром, у 1968-1970 гадах – другім сакратаром Віцебскага абкама камсамола.

У 1970 годзе П.С. Сусалка быў накіраваны на кіруючую пасаду ў Гарадоцкі раён. У 1970-1972 гадах працаваў другім сакратаром Гарадоцкага РК КПБ, у 1972-1974 гадах – старшынёй Гарадоцкага райвыканкама, у 1974-1980 гадах – першым сакратаром Гарадоцкага РК КПБ. Гэта была адказная праца па кіраўніцтве вялікім і складаным ва ўсіх адносінах раёнам. Патрабавалася не толькі самааддача ў працы, але і ўменне і зладжанасць у арганізацыі працы і выхаванні ўсіх кадраў раёна, мабілізацыі іх на рашэнне ўсіх вялікіх і малых задач. Для павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўню П.С. Сусалка завочна вучыўся ў Вышэйшай партыйнай школе пры ЦК КПСС і паспяхова яе закончыў у 1975 годзе. Добрыя вынікі ў развіцці эканомікі і сацыяльна-культурнага сектара Гарадоцкага раёна былі адзначаны Чырвоным Сцягам і Ганаровымі граматамі кіруючых рэспубліканскіх і абласных органаў. П.С. Сусалка быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і двума ордэнамі "Знак Пашаны".

У 1980 годзе П.С. Сусалка быў накіраваны на працу ў Віцебскі абкам партыі на пасаду загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі. Прыйшлося шмат сіл і ўвагі надаваць ідэйна-маральнаму выхаванню людзей, мабілізацыі іх на паспяховую высокапрадукцыйную працу.

У 1984 годзе Віцебскі абкам партыі накіраваў П.С. Сусалку на працу намеснікам начальніка Упраўлення ўнутраных спраў Віцебскай вобласці. Было складана і цяжка працаваць. П.С. Сусалку дапамагалі прафесійна падрыхтаваныя калегі па працы і ён стараўся паспяхова вырашаць пастаўленыя задачы. Для гэтага шмат працаваў над сабой, паспяхова закончыў курсы падрыхтоўкі начсаставу пры МУС СССР.

За 9 гадоў было шмат добрых вынікаў у працы, якія ацэнены многімі ведамаснымі ўзнагародамі. Загадам Міністра ўнутраных спраў СССР Пятру Сямёнавічу Сусалку было датэрмінова прысвоена званне палкоўніка ўнутранай службы.

Пасля выхаду ў запас П.С. Сусалка быў запрошаны на працу ў абласны выканаўчы камітэт, дзе ў 1993-2000 гадах працаваў памочнікам старшыні аблвыканкама, а затым памочнікам старшыні абласнога Савета дэпутатаў. Маючы вялікі досвед кіруючай працы на раённым і абласным узроўнях, П.С. Сусалка стараўся паспяхова выконваць новыя абавязкі.

Зараз П.С. Сусалка знаходзіцца на пенсіі, узначальвае ветэранскую арганізацыю ў апараце абласнога Упраўлення ўнутраных спраў. За многія дзясяткі гадоў пройдзены вялікі і сумленны працоўны шлях, створаная і выхавана вялікая і дружная сям'я (дачка Ірына, сын Сяргей, чацвёра ўнукаў і трое праўнукаў).

Пётр Сямёнавіч Сусалка лічыць, што жыццё пражытае не дарэмна і, на шчасце, яно прадаўжаецца.

**Хочацца ад імя выпускнікоў Глыбоцкага педвучылішча** павіншаваць Пятра Сямёнавіча Сусалку з 80-гадовым юбілеем, пажадаць яму моцнага здароўя, даўгалецця, поспехаў у грамадскай дзейнасці.

# Надыходзіць актыўная пара адкрыцця палявання

■ **В. Е. Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

З прыходам жніўня надыходзіць актыўная пара адкрыцця палявання на розныя віды паляўнічых жывёл і ў першую чаргу на вадаплаўную і балотную птушку. У сувязі, з чым Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету лічыць неабходным нагадаць некаторыя тэрміны адкрыцця палявання, а таксама аб неабходнасці захавання правілаў тэхнікі бяспекі на паляванні, наяўнасці дазваленчых дакументаў.

Як кажуць у народзе, нават стрэльба, якая вісела на сцяне не зараджаная, адзін раз на год страляе, а таму самае галоўнае для чалавека са стрэльбай павінна быць выкананнем мер бяспекі са зброяй пры ажыццяўленні палявання, пераезд да месца палявання, абыходжання з ім. Правілы бяспекі на паляванні, на жаль, вельмі часта пішуцца крывёю саміх паляўнічых.

Часта паляўнічыя пры пераездзе з аднаго месца паляванне ў іншае не зачахляюць і не разраджаюць зброю, што з'яўляецца грубым парушэннем Правілаў палявання, можа прывесці да трагедыі, вінаватыя нясуць адміністрацыйную альбо крымінальную адказнасць. Пры перасячэнні розных перашкод, ручаёў, каналаў, бураломаў і г. д., зброя заўсёды павінна быць разраджаная, пры сустрэчы паляўнічага са службовымі асобамі органаў дзяржаўнага паляўнічай кантролю, органаў унутраных спраў, іншымі паляўнічымі альбо грамадзянамі зброя таксама павінна быць разраджаная. Наяўнасць дазваленчых дакументаў на захоўванне і нашэнне зброі, паляўнічай пуцёўкі і іншых дакументаў абавязковае, выплата дзяржаўнай пошліны на права палявання **абавязковая.**

З **другой суботы жніўня па другую нядзелю снежня** ў светлы час сутак дазволена паляванне на вадаплаўную (акрамя гусей) і балотную дзічыну, вальдшнепа, вехіра, шызага голуба, перапёлку, фазана, з засады, з падыходу, з пад'езда з маламернага судна. З 20 жніўня па 30 верасня дазволена ружэйная паляванне на дарослага самца лася, аленя высакароднага, плямістага і лань еўрапейскую з засады, з падыходу. Да 30 верасня працягваецца ружэйнае паляванне з засады, з падыходу паляванне на дзіка, з 18-00 да 9-00 гадзін.

З 1 кастрычніка па 31 снежня адкрываецца асенне-зімовае паляванне ружэйным загонам, з засад, з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі на лася, аленя, дзіка, казулю еўрапейскую, лань.

**(У выпадку зменаў тэрмінаў, спосабаў палявання ўся інфармацыя будзе паведамлена дадаткова).**

Супрацоўнікі міжраёнінспекцыі перакана ўча просяць паляўнічых уважліва вывучаць і выконваць правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання. Каб не стаць міжвольным іх парушальнікам. Аб усіх правапарушэннях Вы можаце паведамляць па тэлефонах: 5-59-80 – кругласутачна, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 МТС.



# У Беларусі пачалі выдаваць крэдыты на жыллё для маючых патрэбу пад 6-9 працэнтаў

**Белаграпрамбанк пачаў выдаваць крэдыты на жыллё для маючых патрэбу пад 6-9 працэнтаў, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе банка.**



Крэдыт на будаўніцтва жылля пад 6 працэнтаў у першыя два гады і пад 9 працэнтаў у астатнія дадуць толькі чаргавікам - ветэранам баявых дзеянняў на тэрыторыі іншых краін. Ліміт для іншых катэгорый, маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, ужо вычарпаны. "У пачатку года крэдыт маючым патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў Белаграпрамбанк даваў пад 13,5 працэнта гадавых. На праграму выдзялялі Br10 млн. Цяпер стаўка па крэдыце знізілася да 6 працэнтаў за першыя 24 месяцы карыстання крэдытам і да 9 працэнтаў – за наступны перыяд", – растлумачылі ў банку. Зніжэнне ставак па крэдытах выклікана зніжэннем стаўкі рэфінансавання.

У прэс-службе Беларусбанка таксама адзначылі, што ідзе выдача крэдытаў для маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў пад 6 працэнтаў у першыя два гады (1/2 стаўкі рэфінансавання) і пад 9 працэнтаў гадавых (1/2 стаўкі рэфінансавання плюс 3 працэнты) - наступныя гады. Сродкі выдзяляюцца Беларусбанкам толькі чаргавікам, накіраваным на будаўніцтва ад мясцовага выканкама, і толькі ў дамах, якія ўваходзяць у пералік Міністэрства будаўніцтва і архітэктуры.

*БелТА.*

# Для чалавека смяротна небяспечныя – малыя токі, у дзясятки разоў меншыя, чым тыя, якія прыводзяць у дзеянне электрапрыборы

## Забеспячэнне электрабяспекі на будаўнічых пляцоўках

■ А. С. Крывёнак,
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе*

Будаўнічыя пляцоўкі – гэта асаблівыя, значна больш складаныя ўмовы працы для электрамантажнікаў. Часовы характар электраўстановак, уздзеянне атмасферных ападкаў, запыленасць і падвышаная вільготнасць памяшканняў павялічвае небяспеку паражэння працаўнікоў электрычным токам і павышае верагоднасць выхаду з ладу электраабсталявання. Усё гэта прад'яўляе павышаныя патрабаванні да якасці праектавання, вытворчасці і камплектуючых вырабаў будаўнічых электрашчытоў.

Самая распаўсюджаная аварыйная сітуацыя – гэта перагрузка, г. зн. такая з'ява, калі па электрычных правадах і электрычных прыборах ідзе ток большы за дапушчальны. Пры невялікіх перагрузках адбываецца хуткае старэнне ізаляцыі і тэрмін яе дыэлектрычных уласцівасцяў скарачаецца. Перагрузка правадоў на 25% скарачае іх тэрмін службы да 3-5 месяцаў (замест закладзеных 20 гадоў), а перагрузка на 50% прыводзіць у непрыдатнасць правады на працягу некалькіх гадзін. Пры двухразовай і большай перагрузцы ізаляцыя правадыроў запальваецца.

Наступнай з'явай па колькасці аварыйных выпадкаў з'яўляецца кароткае замыканне паміж правадамі, або паміж праводам і зямлёй. Прычынай узнікнення кароткага замыкання з'яўляецца парушэнне ізаляцыі, якое можа быць выклікана старэннем, механічнымі пашкоджаннямі, імпульснымі перанапругамі (навальнічныя і камутацыйныя). Павелічэнне ў сотні тысяч ампер сілы току прыводзіць за нязначны прамежак часу вылучэнне вялікай колькасці цяпла ў правадырах, а гэта выклікае рэзкае павышэнне тэмпературы і ўзгаранне ізаляцыі.

Павышаны пераходны супраціў, які ўзнікае пры наяўнасці дрэннага кантакту ў месцах пераходу току з аднаго правада на іншы або з провада на электраапарат, можа стаць прычынай выдзялення вялікай колькасці цяпла. Калі нагрэтыя кантакты датыкаюцца з гаручымі матэрыяламі, то, магчыма, іх узгаранне, а пры наяўнасці выбуханебяспечных сумесяў – і выбух. Усіх, вышэйпералічаных сітуацый можна пазбегнуць, выкарыстоўваючы сучасныя апараты абароны: аўтаматычныя выключальнікі, засцерагальнікі, прылады ахоўнага адключэння.

Падача сілкавання на электраабсталяванне будаўнічай пляцоўкі павінна праводзіцца ад размеркавальных прылад, кожная з якіх павінна ўтрымліваць: прыбор абароны ад звыштоку; прыборы, якія забяспечваюць абарону людзей пры ўскосных кантактах; штэпсельныя разеткі. Штэпсельныя разеткі павінны быць абароненыя шляхам прымянення прылад ахоўнага адключэння з токам спрацоўвання не больш за 30 мА, альбо падачай звышнізкай напругі, альбо падключэннем да электрычнага незалежнага ўчастку сеткі, які атрымоўвае сілкаванне ад раздзяляльнага трансфарматара. Новым тут з'яўляецца абавязковае ўключэнне ў размеркавальны шчыток будаўнічай пляцоўкі прылады ахоўнага адключэння, усім вядомага УЗО. Нагадаем яшчэ раз, што для чалавека смяротна небяспечнымі з'яўляюцца малыя токі – у дзясяткі разоў меншыя, чым тыя, якія прыводзяць у дзеянне электрапрыборы. Такія ж малыя токі, якія працякаюць на зямлю ў месцы няспраўнасці, могуць стаць прычынай пажару. Менавіта таму засцерагальнікі і аўтаматычныя выключальнікі не спрацоўваюць, калі пад напружанне трапляе чалавек або пашкоджваецца ізаляцыя. Прызначэннем УЗО якраз і з'яўляецца адключэнне напругі ў выпадку, калі электрычны ток спрабуе знайсці сабе шлях, адрозны ад таго, па якім ён павінен цячы.

# Здаровае харчаванне як частка здаровага ладу жыцця

## Хочаце быць здаровым? Піце пяць шклянак вады ў дзень!

■ Д. Шыльчонак,
*фельчар-валеолаг.*

**Рацыён харчавання ў значнай ступені вызначае здароўе насельніцтва, рост яго колькасці і развіццё. За апошнiя дзесяцігоддзе павысіліся тэмпы зменаў у рацыёне харчавання і ладзе жыцця насельніцтва, выкліканыя індустрыялізацыяй, урбанізацыяй, эканамічным развіццём рынку.**

Гэта аказала значны ўплыў на якасць рацыёну і на здароўе насельніцтва Беларусі. І хоць у цэлым узровень жыцця павысіўся, прадукты харчавання сталі даступней і разнастайней, тым не менш, гэта прывяло да істотных праблем, выкліканых няправільным харчаваннем, зніжэннем фізічнай актыўнасці насельніцтва, а таксама спадарожнаму ўсяму гэтаму – росту хранічных захворванняў, прычыны якіх звязаны з незбалансаваным рацыёнам харчавання.

Асаблiва выклікае асцярогу тэндэнцыя, якая азначылася ў апошнія гады – зніжэнне фізічнай актыўнасці насельніцтва, вядзення маларухомага ладу жыцця, выкліканая ў прыватнасці наяўнасцю аўтатранспарту, выкарыстаннем бытавых прыбораў, якія дазваляюць знізіць працаёмкасць працы на хаце, згортваннем працоўных месцаў, якія патрабуюць ручной фізічнай працы, і вольным часам, які пераважна ўяўляе сабой бяздзейнае баўленне часу не звязанае з фізічнай актыўнасцю.

З пры чы н ы вышэйпералічаных зменаў у вобразе жыцця і рацыёне харчавання насельніцтва істотна ўзрастае рызыка развіцця неінфекцыйных хвароб, такіх як захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, хранічныя рэспіраторныя захворванні, анкалагічныя захворванні і цукровы дыябет. Усе гэта з'яўляецца прычынамі непрацаздольнасці і заўчаснай смяротнасці насельніцтва.

**Як нездаровае харчаванне ўплывае на арганізм чалавека?**

- Пры прыёме ежы арганізм пераварвае яе і перапрацоўвае яе ў энергію згодна з патрэбамі, лішак энергіі запасіцца арганізмам, адкладаючыся ў выглядзе тлушчу, у тым ліку ў крывяносных сасудах, сэрца і іншых органах.
- Гэты лішні тлушч блакуе артэрыі і павялічвае нагрузку на сэрца, якое перапампоўвае кроў па ўсім арганізме. Тлушч таксама адкладаецца ў органах, значна абцяжарваючы выкананне органамі іх функцый.
- Усе харчовыя прадукты нясуць у сабе энергію, якая ўвасабляецца ў калорыях, і з'яўляецца «палівам» для арганізма. Высокакаларыйная ежа неабавязкова з'яўляецца высакаякаснай.
- Садавіна і гародніна маюць невялікую каларыйнасць, але з'яўляюцца высакаякасным пастаўшчыком энергіі. Яны ўтрымліваюць шмат вады і клятчаткі, а таксама вітаміны і мінералы, у якіх мае патрэбу арганізм, каб быць здаровым.
- Некаторыя высокакаларыйныя прадукты харчавання, напрыклад, сала, алей, цукеркі, смажаная ежа, з'яўляюцца нізкаякасным пастаўшчыком энергіі. Як правіла, яны ўтрымліваюць рэчывы зусім непатрэбныя арганізму. Яны ўтрымліваюць занадта шмат тлушчу, які блакуе крывяносныя сасуды, прымушаючы сэрца працаваць з падвышанай нагрузкай.
- Цукар, які ўжываўся з ежай або напоямі, ператвараецца ў тлушч і адмоўна ўплывае на клеткі арганізма.
- Арганізм, які пастаянна недаатрымоўвае ваду і ўсе неабходныя яму вітаміны і мінералы з ежы, з цяжкасцю выконвае свае функцыі, у выніку чаго ўзнікаюць адчуванні млявасці, стомленасць і дрэннае самаадчуванне.
- Калі які-небудзь орган у арганізме недаатрымлівае ўсе неабходныя яму для нармальнага функцыянавання інгрэдыенты з спажыванай ежы, ён пачне дрэнна функцыянаваць або перастане функцыянаваць зусім.
- Калі органы цела дрэнна працуюць або зусім спыняюць функцыянаваць, гэта прыводзіць да сур'ёзных захворванняў або нават да смерці.



Каб пазбегнуць неспрыяльных наступстваў, звязаных з няправільным рацыёнам харчавання, неабходна прытрымлівацца простых прынцыпаў здаровага харчавання, вызначаных Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя:

- піце шмат вады – каля 4-5 шклянак у дзень. Гэта дапаможа вашаму арганізму выдаліць шкодныя рэчывы, ад якіх арганізму неабходна пазбавіцца, урэгулюе стул і насыціць ваш арганізм вадкасцю, неабходнай для нармальнага функцыянавання;
- з'ядайце пяць порцый гародніны і садавіны ў дзень;
- скарацiце ўжыванне тлушчу, цукру і солі.

Важна памятаць, што збалансаваны рацыён харчавання з'яўляецца неад'емнай часткай умацавання і падтрымання здароўя чалавека на працягу ўсяго яго жыцця.

## МНС інфармуе

**на 01. 08.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 413;
Гібель людзей – 56, з іх дзяцей –1;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 24;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма
За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.



## Рыбак з Наваполацка злавіў на Дзвіне амаль метровага сазана вагой 13 кг

Раніцай 26 ліпеня ўдача ўсміхнулася пенсіянеру з Наваполацка Мікалаю Турлоўскаму – у межах горада ён змог злавіць велізарны трафей. Пенсіянер рыбачыў на Дзвіне з дапамогай спінінга, гігант клюнуў на прынаду з джыгавай галоўкі і паралонавай рыбкі. Вывуджваць сазана рыбаку прыйшлося доўга, так як снасць не была разлічаная на такую вагу. Калі сп. Турлоўскі прынёс рыбу дадому, яго неардынарны ўлоў вымералі і ўзважылі. Вага трафейнага сазана склала 12 кг 960 гр, а яго даўжыня 915 мм, пра гэта ў сацыяльных сетках паведаміла дачка рыбака. У прыродзе сазан можа вырастаць, хоць і рэдка, даўжынёй больш за метр і дасягаць вагі больш за 20 кг.

*Сяржук Серабро.*

